ПАГОНЯ

Чацвер
20 студзеня 2000 г.
№ 3 (450)
Кошт 70 рублёў

## Сучасныя веды перамаглі

**Міністэрства адукацыі Беларусі прадоўжыла да 31 ліпеня 2003 года тэрмін дзеяння ліцэнзіі Гарадзенскай філіі Недзяржаўнага інстытута сучасных ведаў (НІСВ). Загад аб гэтым падпісаны міністрам адукацыі Васілём Стражавым.**

Так завяршыўся для Гарадзенскай філіі НІСВ перыяд няпэўнасці. Ён пачаўся 30 чэрвеня 1999 года разам з завяршэннем тэрміну дзеяння ліцэнзіі, выдадзенай дадзенай філіі менскім ЗАТ «Інстытут сучасных ведаў», у сувязі з тым, што заснавальнік не прадставіў у міністэрства дакументаў на яе працяг. Тым часам, у Гродне, нічога не ведаючы, чакалі павышэння статусу гэтай навучальнай установы — пераўтварэння філіі ў самастойны інстытут. Аднак загадам ад 16 ліпеня 1999 года філія наогул была закрыта. У сувязі з гэтым, у верасні кіраўніцтва філіі адклікала дакументы на атрыманне ліцэнзіі на адкрыццё ВНУ і звярнулася ў міністэрства з просьбай захаваць яе ранейшы статус.

Дзякуючы намаганням выкладчыкаў, студэнтаў, лістам бацькоў, публікацыям у прэсе, а таксама хадайніцтвам мясцовых Саветаў дэпутатаў і выканкамаў, філію здолелі захаваць, хаця амаль 45 працэнтаў студэнтаў скарысталіся магчымасцю і перавяліся вучыцца ў Гарадзенскі дзяржуніверсітэт. Адначасова, захаваліся ўсе падраздзяленні філіі, практычна ўвесь прафесарска-выкладчыцкі склад і з 12 студзеня 2000 года абвешчаны дадатковы набор студэнтаў на дзённае і завочнае аддзяленні факультэта эканомікі і фінансаў.

Ася Куніцкая

## У 2000-ы - з прэм'ерамі

**23 студзеня Гарадзенскі абласны тэатр лялек шчыра запрашае сваіх прыхільнікаў на прэм'ернае прадстаўленне «Неверагодны ілюзіён».**

Новая пастаноўка, здзейсненая магілёўскім рэжысёрам Алегам Жугждам, адрозніваецца ад звычайнага сюжэтнага спектакля. Гэта хутчэй займальнае шоу, якое складаецца з асобных цыркавых нумароў. Прыгожыя лялькі і дэкарацыі стварыў мастак Леанід Быкаў, які яшчэ напрыканцы 1980-х стаў легендай Гарадзенскага тэатра лялек. Дагэтуль дзяцей радуюць шматлікія казачныя героі, увасобленыя на сцэне гэтым цудоўным мастаком.

У 2000-м годзе працягвае сваю працу «Клуб сяброў Гарадзенскага тэатра лялек». У студзені юных гледачоў чакае спектакль «Кентэрвільскі прывід» О.Уайльда, у лютым - «Казкі Пушкіна», у сакавіку - «Прынцэса на гарошыне» Г.-Х.Андэрсена, у красавіку - «Кот у ботах» Ш.Перо, у траўні - «Доктар Айбаліт» В.Карастылёва. Нагадаю, што акрамя спектакля ўладальнікі абанемента пачуюць міні-лекцыі, сустрэнуцца з акторамі ды іншымі творчымі людзьмі.

Зараз гарадзенскія лялечнікі рыхтуюцца да пастаноўкі вядомай андэрсенаўскай «Снежнай каралевы». Маладая мастачка, дыпломніца Беларускай акадэміі мастацтваў Вольга Разумава намалявала эскізы да спектакля і ўзялася за выраб лялек. Пазалетась Вольга дэбютавала на сцэне Гарадзенскага тэатра лялек як мастак-пастаноўшчык спектакля «Казка пра Ямелю». Рэжысёр Мікалай Андрэеў прымяркоўвае прэм'ерны паказ «Снежнай каралевы» якраз да Міжнароднага дня тэатра. Акрамя гэтага адбудзецца традыцыйны тэатральны капуснік.

У красавіку гарадзенскія лялечнікі здзейсняць абменныя гастролі з калегамі з Менскага Дзяржаўнага тэатра лялек, а ў лістападзе адзначаць юбілей - 20-годдзе заснавання Гарадзенскага абласнога тэатра лялек.

Ігар Гандлеўскі




**21 студзеня** - снег, месцамі - завіруха, вецер паўночны, 6-11 м/сек, парывы ад 15-18 м/сек. Тэмпература паветра ўначы - 6...-11, месцамі - да -16; удзень -4...-9. 22 студзеня тэмпература паветра ўначы -10...-15, месцамі - да -20, удзень -7...-12.



Напярэдадні Новага года скульптар Уладзімір Панцялееў стаў «Мастаком года».
Інтэрв'ю з ім чытайце на стар. 8

# На валасок ад смерці

**У аўторак у Гродне, на выездзе з маста праз раку Нёман, каля вуліцы Паповіча тралейбус урэзаўся ў апору тралейбуснай лініі. Праз некаторы час на праспекце Кляцкова адбылося яшчэ адно сур'ёзнае здарэнне з удзелам грамадскага пасажырскага транспарту. У абодвух выпадках чалавечых ахвяраў не было, аднак асобныя пасажыры пацярпелі вельмі сур'ёзна.**

З дакладнасцю на ўсе сто, 18 студзеня 2000 года можна назваць «чорным» днём грамадскага пасажырскага транспарта горада Гродна. Адразу ж дзве аварыі ў адзін і той жа дзень! Першае здарэнне адбылося а палове восьмай раніцы. На выездзе з маста праз Нёман аўтамабіль Жыгулі карычневага колеру «падрэзаў» тралейбус. Вадзіцель тралейбуса, каб пазбегнуць сутыкнення, рэзка вывернуў руль у правы бок. Пры гэтым тралейбус збіў апору лініі. У выніку гэтага, паводле словаў дзяжурнага ДАІ, адна жанчына атрымала пералом пляча, а мужчына - моцны ўдар ілба. Абодва яны былі дастаўлены ў шпіталь і пазней іх адпусцілі дамоў. Тралейбус атрымаў сур'ёзныя пашкоджанні. Уладальнік Жыгулёў з месца здарэння знік.

Літаральна праз паўгадзіны адбылася яшчэ адна аварыя з удзелам грамадскага пасажырскага транспарта. На праспекце Кляцкова тралейбус спыніўся на пераходзе, каб прапусціць пешаходаў. Зззаду ў яго, не паспеўшы затармазіць, урэзаўся яшчэ адзін тралейбус. Апошні штрых унёс аўтобус, які ляснуўся ў тралейбус. Падчас апошняга ўдару адзін з тралейбусаў выляцеў на паласу сустрэчнага руху і «пацалаваў» прыватны Форд, якому «пашанцавала» якраз у гэты момант апынуцца на гэтым месцы... Усё адбывалася на вачах некалькіх дзесяткаў гараджанаў, аднак, тым не менш, нагадвала вострасюжэтны галівудскі баявік. Толькі цудам удалося пазбегнуць чалавечых ахвяраў (пасажыры атрымалі нязначныя пашкоджанні).

Адпаведна словам кіраўніцтва тралейбуснага дэпо і дзяжурнага ДАІ, гэтыя здарэнні адбыліся з-за галалёдзіцы. Паўстае пытанне, чаму ж вадзіцелі гарадскога пасажырскага транспарта не трымаюцца асноўных правілаў дарожнага руху? Ёсць вызначаны інтэрвал, якога павінны прытрымлівацца вадзіцелі, ёсць вызначаная хуткасць для транспарта такога прызначэння. Чаму б не трымацца гэтых правілаў, тым больш у галалёд? Ці досведу не хапае? Маладыя вадзіцелі (а іх некалькі дзесяткаў на ўвесь невялічкі калектыў) прыходзяць працаваць у тралейбуснае дэпо ці аўтобусны парк, маючы за плячыма ўсяго шэсць месяцаў вучобы!!!

А можа, тут састарэлая тэхніка згуляла рашаючую ролю? Мо сапсаваліся тармазы? І гэта нельга скідваць з рахункаў. Да прыкладу, тралейбус можна эксплуатаваць толькі дзесяць гадоў, а зараз у тралейбусным дэпо выпускаюць на маршруты каля 30 тралейбусаў, якім дзесяць гадоў і болей. Такія ж справы і ў аўтапарку. Чаму не купляем новыя машыны? Адказ адзін: «Няма грошай». Прабачце, а куды ідуць грошы падаткаплацельшчыкаў? Чаму да транспартнікаў не даходзяць датацыі з бюджэту?..

Але ж вернемся да афіцыйнай версіі. Калі ўсё спісваць на галалёд, то таксама ўзнікаюць пытанні. Напрыклад, да гарвыканкама: «Ці не павінны быць пасыпаны ў час галалёдзіцы дарогі соллю або пяском?» Што, таксама эканомія? Ці вартая гэтая эканомія чалавечых жыццяў?..

Дзякаваць Богу, гэтым разам усё абышлося, што называецца, малой крывёю. Аднак званочак, як гаворыцца, празвінеў... Кожны гараджанін у такіх абставінах можа задаць сам сабе пытанне: ці варта ездзіць на такім транспарце? Ці варта рызыкаваць, адпраўляючыся штодня ў падарожжа, дзе невядома: выйдзеш ты з аўтобуса альбо тралейбуса сам, ці цябе адтуль вынясуць? Наперад нагамі...

Юрый Кузняцоў

## Самакіраванне дзеля... татальнага кантролю?

**З мінулага тыдня на Гарадзеншчыне пачалі фармавацца новыя органы мясцовага самакіравання. Згодна з Палажэннем аблвыканкама ад 13 студзеня ў кожнай вёсцы і мястэчку павінны быць абраны старасты. На сённяшні дзень новыя пасады занялі звыш тысячы чалавек. Астатнія выбарчыя сходы павінны правесціся райвыканкамамі да 1 сакавіка.**

Як паведаміў начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку аблвыканкама Уладзімір Амелька, упершыню пасады старастаў былі ўведзеныя яшчэ ў 1994 годзе ў Бераставіцкім раёне. Падчас адной з праверак дзейнасць сельскіх лідараў была прызнаная станоўчай і было рэкамендавана выкарыстаць іхні досвед на тэрыторыі ўсёй вобласці.

Плануецца, што старасты будуць займацца добраўпарадкаваннем вуліцаў, доглядам за састарэлымі і нямоглымі, сачыць за тым, як працуюць крамы... На пытанне, чым жа адрозніваецца староста ад старшыні сельсавета, сп.Амелька адказаў, што старшыня - гэта пасада дзяржаўная, а староста будзе працаваць на грамадскіх пачатках. Паводле яго ных словаў, старасты павінны стаць сувязуючым звяном паміж дзяржавай і народам. Плануецца, што гэтыя людзі будуць абраныя з ліку найбольш аўтарытэтных жыхароў.

Паўстае пытанне, які ж аўтарытэтны грамадзянін будзе садзейнічаць, як гаворыцца ў Палажэнні, «ажыццяўленню палітыкі, ідэалогіі Беларускай дзяржаўнасці, рашэнняў мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых камітэтаў»? Бо менавіта гэтыя воргны ўжо давялі беларускі народ да галечы. Акрамя таго, хаця Палажэнне як быццам бы і не звязана з палітыкай, відавочна, што за новаўведзеннем стаіць жаданне ўлады ўсталяваць татальны кантроль за кожным жыхаром вёскі і краіны ў цэлым.

## Малебен за беларускі народ ў Каложы

**21 студзеня а 17-й гадзіне ў Каложскай царкве адбудзецца малебен за беларускі народ.**

Пасля гэтага пройдзе чарговае паседжанне маладзевай хрысьціянскай суполкі. Сьвятар Аляксандар Елісейчык правядзе дыспут з мэтаю абвергнуць тэорыю Чарльза Дарвіна аб паходжаньні чалавека ад малпы.

Калі ў каго ёсьць цікавыя думкі на гэты конт, прыходзьце.

Юлія Дарашкевіч

# Чыноўнікі згулялі ў юбілей

**У Мастах, як і ва ўсіх райцэнтрах Заходняй Беларусі ў мінулую суботу адсвяткавалі 60-годдзе ўтварэння раёна. Яшчэ два месяцы таму ніхто з чыноўнікаў не ведаў, што трэба будзе святкаваць такую знамянальную дату. Потым, паводле загаду зверху, была створана камісія па правядзенню святочных мерапрыемстваў. Яна і распрацавала неабходны план. Пад яго зверху былі выдаткаваны сродкі.**

За некалькі дзён да прызначанай даты пачалі ўпрыгожваць раённы Дом культуры. З усяго раёна пазвозілі ад народных майстрых дываны, ручнікі і посцілкі. Задрапіравалі зверху да нізу аблезлыя сцены памяшкання дыскатэкі. У фае паставілі папяровую пачвару, якая нечым нагадвала дракона. На вялапленым языку напісалі віншаванне з Новым годам. Развесілі старыя чырвоныя сцягі за дасягненні ў розных галінах гаспадаркі, расставілі дыпломы і граматы. Прывязлі некалькі буфетаў, на вітрыне аднаго з іх красавалася разнастайная вэндліна коштам ад двух да трох мільёнаў рублёў. На ўваходзе паставілі ганаровую варту з сяброў БПСМ з чырвонымі павязкамі.

Культурная праграма была разнастайнай. Тут былі задзейнічаны ўсе: ад дэкламатараў-дзедсадаўцаў да ветэранскага хору. Ігралі два духавых аркестры. Нягледзячы на тое, што планавалася правесці ўсенароднае свята, у Дом культуры пускалі толькі па прапусках. Для простых людзей ля райунівермага былі пастаўлены гандлёвыя рады, але людзі накіраваліся на рынак.

У поўнай зале прысутнічаў большай часткаю чыноўнікі люд і ветэраны, кіраўнікі савецкай і партыйнай раённай улады розных гадоў, за выключэннем хіба што перадапошняга партыйнага важака раёна Паўла Фокіна, які пасля таго, як пайшоў на пенсію, з'ехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Нямеччыну. Самыя важныя госці заходзілі ў кабінет да дырэктара ДК, дзе для іх быў накрыты стол.

Паўдзельнічаць у свяце прыехалі ўлады са сталіцы і вобласці. Гучалі прамовы, былі паказаны канцэртныя нумары, узнагароджвалі лепшых людзей раёна. У падарунак ім уручаўся механічны гадзіннік з надпісам «60 лет Мостовскому району». Свята доўжылася тры з паловаю гадзіны. Напрыканцы яго лепшых з лепшых запрасілі на банкет.

Вось так адзначылі 60-годдзе раёна ў Мастах. Толькі было гэтае свята не для народа, а для чынавенства.

Язэп Палубятка

# Сустрэча для памяці - спатканьне для пераемнасьці



**Яны змагаліся за незалежную Беларусь, а тая квазідзяржава, якая існуе зараз на тэрыторыі нашай краіны, пазбавіла іх апошніх ветэранскіх ільготаў. Яны па дзесяць-дваццаць гадоў пакутавалі ў савецкіх турмах і канцлягерах, а сёньняшні рэжым ушаноўвае былых энкавэдыстаў і ідэёлагаў той жахлівай сталінскай сістэмы пад назвай ГУЛАГ. Але яны не страцілі ні годнасьці, ні пачуцьця гумару, ні кранальнай шчырасьці, захаваўшы лепшыя пракаветныя беларускія рысы.**

Ідэя агульнабеларускай сустрэчы ветэранаў нацыянальна-вызвольнага руху высьпявала даўно. Так, у 1993 годзе ў Менску была зроблена спроба сабраць на спатканьне колішніх сяброў Саюзу Беларускай Моладзі. На пачатку ліпеня 1997 году ў Вільні адбылася сустрэча некалькіх ветэранаў Навагрудзкага швадрону з удзелам Барыса Рагулі. І вось 16 студзеня 2000-га году ў Гародні мясцовая філія Грамады сабрала звыш пятнаццаці чалавек - былых удзельнікаў вызвольнага змаганьня й вязьняў камуністычнага рэжыму. Як заўважыў у разьвітальнай гутарцы Віктар Сазонаў, старшыня гарадзенскай БСДГ(менавіта на сябрах гэтай арганізацыі ляжаў асноўны цяжар арганізацыйнай працы), «для нас гэтая сустрэча зьяўлялася справай гонару, менавіта такія акцыі забясьпечваюць духоўную пераемнасьць». Спатканьне ветэранаў ладзілася таксама з ўдзелам агульнабеларускай моладзевай спартова-патрыятычнай арганізацыі «Край» і пры падтрымцы Гарадзенскага аддзяленьня «Фонду імя Льва Сапегі». А слонімец Сяргей Ёрш адмыслова да імпрэзы падрыхтаваў першы выпуск газэты «Голас Камбатанта».

У горад над Нёманам прыехалі сябры былых Саюзу Беларускай Моладзі, Саюзу Беларускіх патрыётаў у Глыбокім-Паставах, Саюзу Вызваленьня Беларусі ў Навагрудку, Навагрудзкага швадрону, Саюзу Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі, Беларускай Краёвай Абароны. Некаторыя з запрошаных ня здолелі прыехаць па стане здароўя, даслаўшы падзяку арганізатарам. Так, напрыклад, Рыгор Клімовіч, адзін зь лідараў руху супраціву Ў ГУЛАГу, кіраўнік Нарыльскага паўстаньня 1953 году перадаў прывітаньне праз свайго сябра Міколу Канаша. Апошні прыехаў ажно са Жлобіну. Былі ветэраны з Мёраў, Баранавічаў, Пінску, Наваградчыны, Менскай вобласьці.

А вось радкі зь ліста, які даслаў са Слоніма спадар Андрэй Вайтовіч: «... запрашэньне на сустрэчу заставіла мае вочы зрабіцца вільготнымі. На васьмідзесятым годзіку жыцьця хтосьці мяне ўспомніў, першы раз у жыцьці. Вялікі, вялікі дзякуй!»

Распачалася імпрэза даўнім беларускім гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які выканаў хор «Бацькаўшчына». Пад словы гэтай патрыятычнай песьні краёўцы ўнесьлі сьцяг БНР. Ад імя арганізатараў выступіў Зьміцер Кісель. Ягоны бацька, Уладзімір Кісель, і Аляксандар Баханчык з Гарадзеі, усяго некалькі месяцаў не дажылі да сустрэчы, пра якую яны так марылі. Далей слова бралі Аўген Калубовіч (сын таго самага Калубовіча) і прадстаўнік «Краю», арганізацыі, якая лічыць сябе спадкаемцай вызвольных рухаў 40-х - 50-х гадоў. А потым сваімі ўспамінамі сталі дзяліцца ветэраны-камбатанты. Слова «камбатант» у нашай мове азначае «удзельнік вайны» (вызвольнага змаганьня), сябра па зброі.

Пасьля абеду распачалася канцэртовая праграма, у якой выступілі петрашэвіцкія «Дударыкі» і бард Андрэй Мельнікаў, даўні сябар гарадзенскіх грамадоўцаў. А далей ізноў гучалі успаміны, уражаньні, прапановы. Магчыма, адбудзецца яшчэ адна падобная сустрэча, зь яшчэ больш шырокім колам удзельнікаў. Атмасфэра ў залі была надзвычай цёплай, нейкай да сэнтымэнтальнасьці аптымістычнай. Таму завяршыць хочацца радкамі зь верша Уладзіміра Сіўко, беларускага вайсковага дзеяча трыццатых-саракавых: «Ня гасьне праўда, вера і надзея, Што дажывём яшчэ да сьветлых дзён І хоць рады ўжо моцна парадзелі, І кожны з нас даўно не маладзён. А сьветлы дзень яшчэ за даляглядам, Туман усюды, дзе не аглянуся, Я ўпэўнены: пад боскаю уладай Народ здабудзе волю Беларусі!»

Позна ўвечары на чыгуначным вакзале людзі са здзіўленнем азіраліся на незвычайную купку ветэранаў, якія размаўлялі паміж сабою па-беларуску. Праходным было недаўмецца, якія гэта за легендарныя асобы шыбуюць на цягнік. А так хочацца, каб гэтыя камбатанты - волаты духу - дажылі да таго «залацістага яснага дня», калі іх будуць прымаць у лепшых залях краіны, калі новая беларуская дзяржава належным чынам ушануе цьвет і гонар сваёй нацыі. Пакуль жыве памяць і павага да такіх людзей - жыве пераемнасць беларускай ідэі.

**Уладзя Удуговіч**

**На здымках: сапраўдныя волаты беларускага духу.**



**Надзея Дземідовіч, сябра Саюзу Беларускай Моладзі, была засуджана на 25 гадоў**



**Вера Касмовіч, сябра Саюзу Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі, вязень ГУЛАГу**



**Мікола Канаш, лягерны сябра Ларысы Геніюш**

# «Вясна-2000» - за незалежнасць!

**Набліжаецца вясна 2000 года. У Беларусі паглыбляецца крызіс, створаны самім нелегітымным рэжымам. Працягваюцца спробы інкарпарацыі Беларусі Расеяй нават на злавесным фоне несупыннай каўказскай вайны. А людзі катастрафічна бяднеюць. Узровень жыцця за часы так званай інтэграцыі пагоршыўся ў некалькі разоў. Беларускі народ паступова вымірае.**

У той жа час, у краіне існуюць аб'ектыўныя ўмовы і воля для дэмакратычных пераменаў. Беларускае грамадства засведчыла гэта праз шэраг палітычных і сацыяльных акцыяў пратэсту. Але рэжым сваімі дзеяннямі паказаў, што не збіраецца весці сур'ёзныя перамовы з апазіцыяй. Збіццё Андрэя Клімава і прысуд Васілю Лявонаву пацвярджаюць гэта. А нежаданне ўладаў ісці ў кірунку свабоднай эканомікі пацверджана канфіскацыйным дэкрэтам N40 і антырынкавым указам N17 аб пасярэдніцкай дзейнасці.

Толькі праз масавыя кампаніі можна прымусіць улады да перамоваў і свабодных дэмакратычных выбараў.

Гэтай вясной беларускае грамадства будзе мець шанец прадэманстраваць сваю волю, актыўна выказацца за свае інтарэсы. Народ немагчыма падманваць доўга, гуляючы ў «інтэграцыю» ды шукаючы ворагаў сярод самога народа.

З гэтай прычыны Сойм БНФ «Адраджэньне», які адбыўся 15 студзеня, сваю асноўную ўвагу скіраваў на падрыхтоўку і правядзенне масавых акцыяў напрыканцы зімы і ўвесну 2000 года.

БНФ заяўляе, што падтрымлівае акцыі, якія ладзяць прафсаюзы ў абарону сацыяльных правоў рабочых і прадпрымальнікаў, святкаванне моладдзю Дня Святога Валянціна 14 лютага, акцыю беларускіх ветэранаў вайны ў Афганістане 15 лютага і заклікае сяброў і прыхільнікаў БНФ прыняць чынны ўдзел у падрыхтоўцы гэтых імпрэзаў.

Разам з дэмакратычнымі сіламі БНФ «Адраджэньне» будзе спрыяць поспеху найважнейшых акцыяў «Вясны-2000»: Дня Канстытуцыі 15 сакавіка і традыцыйных святкаванняў - Дня Волі 25 сакавіка і Чарнобыльскага шляху, а таксама гадавіны антыбеларускага рэферэндуму 14 траўня. Сойм даручыў управе БНФ «Адраджэньне» зрабіць усе захады дзеля фармавання нацыянальнага арганізацыйнага камітэта святкавання Дня Волі 25 сакавіка.

15 студзеня Сойм БНФ прыняў зварот «Вясна-2000» за незалежнасць Беларусі і свабодныя выбары», у якім заклікаў прадстаўнікоў усіх дэмакратычных партыяў, аб'яднанняў, прафсаюзаў да скаардынаванага, салідарнага веснавога вулічнага наступу. БНФ звяртаецца да палітычных партыяў, якія ўваходзяць у апазіцыю рэжыму, з прапановай аб правядзенні гэтых акцыяў ва ўсіх буйнейшых гарадах Беларусі са стварэннем агульных аргкамітэтаў.

**Прэс-група БНФ**

# Расея зніжае рысу ядзернай бяспекі

**Пакуль беларускія ўлады выдзыгаюць перад Расеяй, паказваюць, як яны любяць сваіх «старэйшых братоў» славянскай нацыянальнасці, і займаюцца іншай любоўнай лірыкай, Расея займаецца рэальнай палітыкай. На мінулым тыдні гэтая краіна абвесціла, што пераглядае сваю ядзерную дактрыну і зніжае рысу, пасля якой можа ўжыць ядзерную зброю.**

Паводле папярэдняй дактрыны, Расея папярэджвала свет, што ўжыве ядзерную зброю, калі ўзнікне пагроза яе суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці. Цяпер Расея заяўляе, што зброя можа быць ужыта ў выпадку, калі ўзнікне небяспека дзяржаўным інтарэсам. Вось такім чынам Расея зніжае рысу ядзернай бяспекі.

Што ёсць расейскія інтарэсы і навошта Расеі спатрэбілася размахваць ядзерным дрынам, бадай, упершыню пасля заканчэння халоднай вайны? Адказ відавочны - расейскія інтарэсы ёсць імперыялістычная экспансія, а пагроза ядзернай зброяй спатрэбілася для спрыяння руху гэтых інтарэсаў у свеце.

Раней Расея, маючы ў складзе СССР яшчэ 14 рэспублік, і ў складзе Варшаўскага дагавора ўсю Усходнюю Еўропу, магла асабліва не выпячваць свой ядзерны арсенал (савецкія танкі за суткі выходзілі на Ла-Манш) - да яе і так прыслухоўваліся ды ў свеце лічылі вялікай дзяржавай. Сёння Расея страціла статус вялікай дзяржавы; не дзіва, калі аб'ём яе вытворчасці роўны аналагічнаму ў Бельгіі. Тым не менш, Расея не развіталася са сваімі імперскімі амбіцыямі. Свае інтарэсы яна спрабуе замацаваць на Балканах, на Каўказе і Паміры, у Сярэдняй Азіі ды ў Прыбалтыцы. Расея прысвоіла сабе права вызначаць Польшчы, Чэхіі, Венгрыі: далучацца ім да NATO, альбо не далучацца. Расея актыўна інкарпаруе Беларусь і збіраецца тое самае паўтарыць на Украіне. Аднак былыя каланіяльныя народы змагаюцца супраць імперскай экспансіі Расеі, ім дапамагае міжнародная супольнасць. Вось тут Расея і пачала пагражаць ядзернай зброяй - каб запалохаць міжнародную супольнасць і зламаць супраціў народаў, якія Расея мае намер паўторна каланізаваць і выкарыстоўваць у інтарэсах Крамля.

Вайна ў Чачні ўздзейнічае на расейскі імперыялізм як цудадзейныя лекі «Віагра» на імпатэнтаў. За час, ад якога расейская армія распачала наступ на Грозны, нямецкія войскі ў 41-м былі ўжо пад Масквой. Так што пагрозу ядзернай зброяй цалкам можа аднесці на свой рахунак і ўрад незалежнай Чачні. Сапраўды, як было б выдатна «замачыць» бомбай Чачню і вырашыць чачэнскае пытанне раз і назаўжды.

На Беларусі цалкам захавалася інфраструктура для размяшчэння ядзернай зброі, пабудаваная савецкай арміяй. Расея ў любы момант можа размясціць тут частку са сваіх 6000 ядзерных зарадаў і зэканоміць для сваіх ракет ці бамбардыроўшчыкаў тысячу кіламетраў палёту. Гэта дазваляе ёй дагавор з Беларуссю пра сумесную ваенную бяспеку. Адпаведна, тэрыторыя Беларусі стане мішэнню для ракетаў NATO і зонай асаблівай цікавасці для NATOўскіх спецслужбаў і дыверсійных падраздзяленняў. Вось чым можа скончыцца змяненне ядзернай дактрыны ва ўмовах «інтэграцыі» Беларусі ў склад Расеі.

З іншага боку, сітуацыя можа развівацца яшчэ горш. Пасля прыходу да ўлады дэмакратычных сілаў будуць прызнаныя нікчэмнымі як «саюзная дамова», так і ўсе іншыя пагадненні, якія парушаюць Канстытуцыю Беларусі, вядуць да страты незалежнасці. Расея ў гэтым выпадку можа абвясціць Беларусь зонай сваіх інтарэсаў, выставіць сябе абаронцам праваслаўя, рускай мовы да іншага славянства, пасля чаго, пагражаючы NATO ядзернай зброяй, акупаваць Беларусь. Калі такая вайсковая аперацыя поспеху не прынясе, Расея можа «замачыць» беларускіх дэмакратаў ядзернай бомбай.

Усё гэта пакуль што выглядае фантастыкай. Але ў мінулым стагоддзі ў Еўропе і не такія пачварныя фантазіі ўвасабляліся ў жыццё. Трэба быць пільнымі, як казаў знакаміты Юліус Фучык.

**Сяргей Самасей**

# З імі кепска, але без іх было б яшчэ горш

**18 студзеня кіраўніцтва УУС аблвыканкама правяло прэс-канферэнцыю, прысвечаную вынікам работы за мінулы год. Раскрывальнасць злачынстваў па закончаных справах склала 72 працэнты. У гэтым найважнейшым паказчыку гарадзенскія ахоўнікі правапарадку саступілі першынство калегам суседняй Берасцейшчыны. Нераскрытымі застаюцца 13 забойстваў.**

Скупа было паведамлена пра ходу разбіральніцтва жудаснага забойства групы прадпрымальнікаў Гродна, якія былі жорстка пазбаўлены жыцця ў пачатку мінулага года каля Смаленска. Начальнік абласнога ўпраўлення ўнутраных справаў, генерал міліцыі Анатоль Белашэўскі абнадзеіў, што ёсць пазітыўныя дадзеныя, здабытыя расейскімі калегамі. У гэтай справе прасочваецца ўдзел іншых грамадзянаў Беларусі. Неўзабаве ў справе будзе пастаўлена апошняя кропка.

Хутка пачнецца суд над грамадзянінам Пухавым, які разам з Рыбачонкам здзейсніў шэраг дзёрзкіх забойстваў у Гродне. Што да Рыбачонка, то ён памёр у турэмнай бальніцы ад заражэння крыві. Паводле міліцэйскіх звестак, гэты чалавек забіў сем грамадзянаў.

Усяго за год у вобласці зафіксавана 11 386 злачынстваў. Гэта больш, чым летась. На 25,8 працэнта выраслі крадзяжы, асабліва прыватнай уласнасці. У Гродне іх здзейснена 50. Пакутуючь таксама ад гэтай бяды жыхары Ліды і Слоніма. Не саступае пазіцыяў махлярства. Даверлівыя людзі пазычаюць грошы ўсялякім прайдзісветам, а пасля не могуць вярнуць свае рублі ці даляры. У Лідзе прадпрымальны кіяскёр напазычаў ажно 60 тысяч «зялёных». Яшчэ адзін аматар кветак у гэтым горадзе таксама спакушаў жыхароў даверыць яму грошы пад працэнты. Аднак цяпер грамадзяне спадзяюцца, што толькі міліцыя дапаможа ім вярнуць свае кроўныя.

Летась назіраўся рост хуліганства і злачынстваў на бытавой глебе. Чарговы крок наперад зрабіла наркаманія. На ўлік пастаўлена 65 чалавек, 14 з якіх непаўнагадовыя. Усяго ў наркадыспансеры ўзята на кантроль 323 асобы. 75 юрыдычных асобаў прыцягнута да адказнасці за стварэнне прытонаў, занятак прастытуцыяй, садзейнічанне выезду за мяжу жанчын і дзяўчат, якія пасля папросту прадаюцца ў публічныя дамы. У правераных у Гродне 15 відэасалонах выяўлены парнаграфічныя фільмы, стужкі, якія прапагандуюць культ жорсткасці ды гвалту. Заведзена дзве крымінальныя справы.

У 1999 годзе было схоплена за руку 76 хабарнікаў. Эканамічныя злачынствы здзейсіілі 1583 чалавекі. Сярод іх 107 кіраўнікоў, 214 матэрыяльна-адказных асобаў, 31 бухгалтар і ўліковы работнік.

Дзяржаве вернуты мільярдныя сумы грошай, скрадзеных і прысвоеных аматарамі лёгкай спажывы.

Што да самой міліцыі, то кожны райаддзел абзавёўся ўласнай службай бяспекі, закліканай выяўляць парушэнні закона сярод службоўцаў органаў унутраных справаў. Такіх знайшлося 280. Адзін асуджаны. Напрыканцы мінулага года адбыліся значныя змены і сярод кіруючага складу УУС аблвыканкама. Заменена 14 афіцэраў. Адбыліся ракіроўкі на раённым узроўні, іншых перавялі на службу ў Гродна. 81,1 працэнта работнікаў міліцыі маюць вышэйшую юрыдычную адукацыю.

**Сцяпан Ярашчук**

# Беларусь праваслаўная праз фотааб`ектыў

**Толькі тры дні - пятніцу, суботу і нядзелю - у Новым Замку адбывалася фотавыстава «Беларусь праваслаўная», прысвечаная 2000-годдзю Раства Хрыстова.**

Гродна - ужо трынаццаты горад, дзе пабывала гэтая выстава. Да гэтага яна наведала Брэст, Гомель, Жлобін, Магілёў ды іншыя гарады. Імпрэза прыпала на святкаванне 100-годдзя Гарадзенскай епархіі. У нядзелю, апошні дзень акцыі, была адслужана літургія. Айцец Аляксандр блаславіў выставу і яе наведвальнікаў.

Фотавыстава «Беларусь праваслаўная» месцілася на перасоўных стэндах на першым і другім паверхах Новага Замку. Яе аўтары - фотаапаратар Уладзімір Калашнікаў і Аляксандр Савін - сабралі здымкі праваслаўных святыняў і храмаў, знакамітых і маладых святароў ды навучэнцаў духоўных семінарыяў з усіх дзесяці епархіяў Беларусі. Дзякуючы выставе вернікі і проста цікаўныя наведвальнікі музея атрымалі рэдкую магчымасць убачыць цудоўныя каменныя і драўляныя цэрквы Беларусі - Полацкую Сафію, Каложу, манастыры, Жыровіцкую ікону нерукатворную, мазаікі з Пакроўскага сабора ў Баранавічах. Былі тут і здымкі сучасных падзеяў праваслаўнага жыцця краіны. Экскурсаводы Менскай духоўнай семінарыі і брацтва раўнаапостальнага князя Уладзіміра ля фотаздымка Генадзя Сівакова распавялі, што «дзякуючы высілкам гэтага набожнага чалавека пабудаваны храм у імя загінуўшых на Чарнобыльскай АЭС».



Літургію перад адкрыццём выставы адслужыў айцец Аляксандр

Дарэчы, сааўтар выставы Аляксандр Савін быў аператарам Беларусьфільмаўскіх бэстсэлераў «Бурацiна» і «Белы Бім Чорнае Вуха». Досвед работы з аб`ектывам у свецкіх справах адлюстраваўся і на выдатнай якасці здымкаў на рэлігійныя тэмы. Так, на адной з фатаграфіяў у момант асвячэння храма бачны «цуд»: крыж з белых воблакаў на сінім небе і белы свет, які зыходзіць на купал царквы.

З Гродна выстава адправілася ў Навагрудак і Ліду. Сёлета яе арганізатары плануюць наведаць Пецярбург.

**Алена Сіневіч**

# Кінатэатр памёр. Няхай жыве філармонія

**У Гродне спыніў існаванне адназімены кінатэатр. Аблвыканкам прыняў рашэнне аб перадачы будынка кінатэатра «Гродна» абласной філармоніі. У ім пасля рэканструкцыі размесціцца канцэртная зала.**

Абласная філармонія была створана ў студзені 1987 года на базе гастрольна-канцэртнага аддзялення Белдзяржфілармоніі і разам з абласным навукова-метадычным цэнтрам культурна-асветніцкай працы займае суседні з кінатэатрам невялікі будынак, дагэтуль не маючы сваёй канцэртнай залы. У горадзе наогул пакуль няма спецыялізаванай канцэртнай залы.

Да 17 студзеня ў «Гродне» яшчэ дэманстраваліся кінафільмы. Пасля гэтага, у абласным цэнтры засталося толькі пяць кінатэатраў.

**Ася Куніцкая**

# На парозе - грып

**Эпідэмія грыпа ў Менску можа пачацца бліжэйшымі днямі. Як заявіў 18 студзеня на прэс-канферэнцыі загадчык аддзела надзвычай небяспечных інфекцый гарадскога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (ЦГЭ) Аляксандр Маштакоў, гэта адбудзецца ў выпадку пацвярджэння інфармацыі аб пачатку эпідэміі ў Калінінградзе (Расія).**

Зараз у беларускай сталіцы штодзённа фіксуецца ад трох да чатырох тысяч выпадкаў вострых рэспіраторных захворванняў (ВРЗ). На мінулым тыдні (10-16 студзеня) з дыягназам ВРЗ былі шпіталізаваныя 132 дзіцяці і 10 дарослых жыхароў сталіцы. Гэтая статыстыка, паводле слоў галоўнага эпідэміёлага камітэта па ахове здароўя Менгарвыканкама Алы Раждзённай, упісваецца ў межы сезоннага пад'ёма захворвання (эпідэмічны парог складае 10—12 тысяч захворванняў штодзённа).

На думку А.Маштакова, сродкі масавай інфармацыі, як ніколі, нагняталі абстаноўку вакол эпідэміі грыпа, што выклікала ажыятажны попыт на прафілактычныя супрацьгрыпозныя лекавыя прэпараты, а таксама масавыя звароты грамадзян з просьбай зрабіць ім прышчэпкі. А.Маштакоў заявіў, што «гарадская аптэчная сетка мае неабходны запас лекаў для барацьбы з хваробай, і як толькі паступіць каманда, ён будзе выкінуты ў продаж». Што да прышчэпак, то, як адзначыў А.Маштакоў, за два тыдні да пачатку эпідэміі яны становяцца нават шкоднымі, паколькі ў выпадку заражэння абцяжарваюць ход хваробы.

Паводле сцвярджэння А.Раждзённай, эпідэмія грыпа будзе сярэдняй па цяжкасці і распаўсюджванню. Аднак многае будзе залежаць ад ступені відазменнасці віруса (ў параўнанні з 1999 годам). Летась у Менску на грып перахварэла 19,4 працэнта насельніцтва і не менш за 6 чалавек памерлі.

**Дзмітрый Уласаў**

# Хавайце запалкі ад дзяцей. І ад дарослых

**Калыханка для трохгадовага Дзімы і двухгадовай Лілі гучала без словаў, бязгучна, пад акампанемент цыгарэтнага дыму. І дзеці заснулі. Назаўсёды. «Адмучыліся», - казалі пра іх тыя людзі, што да пажару зрэдку заходзілі ў старэнькі дом і падкормлівалі дзетак бутэрбродам ці скрыдлікам сала.**

Гэтыя дзеці з сям'і Х. жылі на хутары Ашмянскага раёна разам з бацькамі і дзядзькам-інвалідам. Пах дыму і самагону малеча чула часцей, чым духмяны водар свежага баршчу ці мяса. Але бацькоў, як вядома, не выбіраюць. І брацік з сястрычкай цягнулі маленькія ручкі да сваёй 27-гадовай мамы. А жанчына ж нярэдка пакідала дзяцей на брата-інваліда, калі накіроўвалася «па сваіх справах». Пажар здарыўся ў чацвер раніцай. Пажарныя даведаліся пра няшчасце ад жыхаркі суседняй вёскі. Брандмайстры пачалі тушыць дом, ужо поўнасцю ахоплены агнём. Выратаваць каго-небудзь не ўдалося. Разгробшы згарэлае бярвенне і вугоўле, пажарнікі знайшлі парэшткі двух дзетак ды іх дзядзькі. Бацькі і маці супрацоўнікі пажарнай службы, міліцыі і пракуратуры знайшлі сярод жывых. Бацька ўжо двое сутак баві́ў час у знаёмых у Ашмянах, а маці знайшлі ў вёсцы Жупраны з відавочным пахмельным сіндромам. У сваіх адказах на пытанне, калі яна пакінула дзяцей, жанчына блыталася.

Тлумачэнняў гэтаму доўга шукаць не трэба. Алкагалізацыя, маральная дэградацыя насельніцтва знаходзяць пацверджанне як у крымінальнай статыстыцы, так і ў пажарнай. Пажары са з'яваў надзвычайных пераходзяць у разрад будзённых.

На нядаўнім брыфінгу ўпраўлення МНС прагучалі сумныя лічбы. За мінулы год адбылося на 101 пажар больш, чым у 98 годзе, і гэтая лічба склала 1664 выпадкі. Калі ў 90 годзе на пажары загінулі 40 чалавек, то за мінулы год, упершыню ў гісторыі вобласці, загінула 108 нашых суграмадзянаў, з іх 8 дзяцей.

Начальнік упраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Аляксей Гуз паведаміў, што самая распаўсюджаная прычына ўзнікнення пажараў - неасцярожнае абыходжанне з агнём (33 працэнты). Затым: парушэнні правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі печаў і электраўстановак. Дзіцячае свавольства з запалкамі - прычына кожнага шостага пажару.

Адной з асноўных прычынаў такога становішча супрацоўнікі службы МНС называюць п'янства. Колькасць асобаў на ўліку наркалагічнага дыспансера вобласці набліжаецца да пяці тысяч. Да гэтай групы рызыкі можна дадаць і тых, хто грашыць чаркай штодня. Так, самым «ураджайным» па гібелі людзей з гэтай прычыны быў снежань: загінула 22 чалавекі, з іх 13 знаходзіліся ў нецвярозым стане.

Аднак выратаванне людзей з агню і тушэнне пажараў - не адзіная задача ратавальнікаў са службы МНС. Усюды, дзе паўстае пытанне пра жыццё чалавека - работа нашых ратаўнікоў. Баявыя разлікі аварыйна-выратавальных атрадаў вобласці за мінулы год выязджалі на лясныя і тарфяныя пажары, на ліквідацыю аварыяў, дарожна-транспартныя здарэнні, на ліквідацыю аварыяў з выкідамі небяспечных рэчываў ды іншыя НС больш за паўтары тысячы разоў.

Ратавальнікі не ўтойваюць, што яны недастаткова ўкамплектаваныя спецыяльнай тэхнікай, агрэгатамі, медыкаментамі і абсталяваннем для ліквідацыі аварыяў, наступстваў катастрофаў і стыхійных бедстваў. «Нам трэба дацьмінімум, каб мы маглі працаваць», - марыць ратаўнік.

**Алена Сіневіч**

# Гарвыканкам піша «абяцанкі»

**Шмат часу змагаюцца жыхары дома нумар 60 па вуліцы Урублеўскага ў Гродне за тое, каб не гніла ад вільгаці бялізна ў шафах і не заводзіўся грыбок на сценах. ПАГОНЯ пісала пра гэта ў кастрычніку. І вось днямі атрыманы адказ з Гарадзенскага гарвыканкама. Першы намеснік старшыні А.Кунаш паведамляе, што распрацаваны праект уцяплення сценаў, склепу і страхі дома. Тэрмін выканання праекту будзе разглядацца пасля зацвярджэння гарадскога бюджэту на 2000 год.**

Апошняя фраза здзіўляе. Па-першае, чаму ўсё яшчэ не зацверджаны бюджэт? У чым праблема - нават бюджэт цэлай Расеі зацверджаны месяц таму. Па-другое, пры незацверджаным бюджэце механічна ўзнаўляюцца кантрольныя лічбы мінулага года. Так што ўцяпліць дом можна хоць сёння. Ці не так, спадар Кунаш? Ці ў Вас з Пашкевічам цёпла і суха?

**Сяргей Самасей**

# Сумныя вынікі прафсаюза

**У Мастах прайшла пятая раённая канферэнцыя прафсаюзу райаграпрамкомплексу. На ёй прысутнічалі 53 дэлегаты ад 32 арганізацый, што належаць да гэтай галіны гаспадаркі. Канферэнцыя вымушана была канстатаваць сумныя лічбы: аб'ём вытворчасці райаграпрамкомплексу за 1999 год знізіўся на 8% у параўнанні з 1998 годам, у тым ліку малака на 6%, ялавічыны - на 10%, свініны - на 11%. Сярэдняя заробная плата склала 13 мільёнаў недэнамінаваных рублёў у механізатараў і жывёлаводаў, у паляводаў - 7 мільёнаў 540 тысяч рублёў.**

Забяспечанасць механізатарамі ў раёне толькі 91%; даяркамі - 94%, але болей як 200 з іх пенсіянеркі.

**М.Падгайны**

# Абабраны дзяржавай і ёй жа пазбаўлены права выкупіць сваё жыллё пенсіянер Макараў

**Дзмітрый Іванавіч Макараў - чалавек сталага веку, яму цяпер болей за 70 гадоў. Здароўе сапсавалася. Грошай няма - хаця былі. Дзяржава з'ела ашчаджэнні пры дапамозе інфляцыі: каля 20 тысяч рублёў, якія накапіў Дзмітрый Макараў з 1965 года. Ёсць толькі аднапакаёвая кватэра плошчай 17 квадратных метраў з агульнай камунальнай кухняй. Але распарадзіцца гэтай кватэрай ён не можа - бо дзяржава не дазволіла гэтую кватэру прыватызаваць.**

Хто толькі і чаго толькі не паспеў прыватызаваць за апошнія дзесяць гадоў. Заводамі цэлымі, калгасамі разам з сялянамі прыватызавалі чыноўнікі агульную маёмасць. Але Дзмітрый Макараў так і не здужаў адарваць свой маленькі кавалачак плошчай у 17 метраў квадратных.

Закон аб прыватызацыі жыллёвага фонду забараніў прыватызацыю жылля ў камунальных кватэрах. Так, з красавіка 1992 года Дзмітрый Іванавіч аказаўся чалавекам другога гатунку і мог толькі назіраць, як іншыя пераходзяць у сацыяльныя групы «сярэдні клас» і «новыя беларусы». Мінула шэсць гадоў.

У траўні 1998 года закон быў зменены. Жыльцы камуналак маглі выкупіць жыллё, але толькі разам. У чэрвені Канстытуцыйны Суд прызнаў, што абмежаванні ў выкупе камуналак супярэчаць Канстытуцыі і адмяніў іх. Але было ўжо позна: першага ліпеня заканчваўся тэрмін ільготнай прыватызацыі. Пасля гэтай даты за прыватызацыю трэба плаціць вялізныя грошы. Якіх у Дзмітрыя Макарава няма - хаця былі (Гл. вышэй). За 20 тысяч савецкіх рублёў яму налічылі 90 мільёнаў беларускіх. Прычым, безнаяўных).

Куды толькі не пісаў небарака. Прэзідэнту - гэта само сабой. «Паважанаму Сяргею Сцяпанавічу» - старшыні Савета міністраў. Міністру камунальнай гаспадаркі, усім яясцовым чыноўнікам. Ніхто і нічым Макараву не дапамог.

Намеснік Гарадзенскага ваяводы В.Чорны растлумачыў сітуацыю: мясцовыя органы законных падставаў, каб дапамагчы пенсіянеру Макараву, не маюць. Зразумела, што дзеля Макарава спецыяльна законы мяняць не стануць. Такім чынам, як пішуць з адміністрацыі Кастрычніцкага раёна горада Гродна, «перапіска з Вамі па гэтаму пытанню спыняецца».

«Сутнасць адказаў - гэта крывадушная спроба апраўдаць існуючую ўжо больш як 70 гадоў безадказнасць улады і практыку экспрапрыяцыі, - гаворыць спадар Макараў. - У дадзеным выпадку нам кідаюць мізэрную кампенсацыю за ўклады, а на падтрыманне раздзьмутага недзеяздольнага апарату чыноўнікаў грошай не шкадуюць. Мая праблема вырашаецца проста: паколькі мне не дазвалялася прыватызаваць жыллё шэсць гадоў, а потым аказалася, што ў гэтым вінаватыя дурныя чыноўнікі, якія прынялі дыскрымінацыйны закон, то хай цяпер мне дадуць тыя ж шэсць гадоў для ільготнай прыватызацыі, якія аднялі. Зрэшты, мне хопіць і шасці дзён...»

Зварот у прэсу - мабыць, апошні шанец для Макарава. «Думаю, што ні адзін, нават самы дзікі, урад свету не наважыўся б так цынічна грэбаваць людзьмі, асабліва тымі, хто «дыхае на ладан». Прашу дапамогі ў абароне правоў чалавека,» - піша ён.

Што ж, ПАГОНЯ ніколі не адмовіць у дапамозе. Што тычыцца ўлады - пытанне да канца не высветленае. Часам дапамагае, часам не...

**Сяргей Самасей**

# Зацішша выхаднога дня на валютным рынку

**За мінулыя дні сітуацыя на валютным, усё яшчэ «чорным», рынку істотна не змянілася. Адна ўмоўная адзінка па-ранейшаму эквівалентная 900 тысячам беларускіх недэнамінаваных рублёў.**

Можа, надышла стабілізацыя? Ці Савет Міністраў Беларусі і Нацыянальны банк распрацавалі якую-небудзь цуда-праграму? Мякка адкажам на ўзнятыя намі пытанні: хутчэй за ўсё, нічога гэтага няма. Каб правільна зразумець сітуацыю, на нашу думку, трэба дачакацца заканчэння бягучага тыдня. Ды і ПАГОНЯ сёння выйшла ў сімвалічнае для фінансавага рынку краіны чысло - 20-е...

Наогул жа, з пачатку бягучага года беларуская нацыянальная грашовая адзінка ўжо абясцэнілася на 13 працэнтаў (гл. табліцу), што па выніках года выльецца, зыходзячы з «зададзенага тэмпу», як мінімум, у 170 працэнтаў гадавых, калі і застанемся (???) на адзнацы ў 900 тысяч рублёў напрыканцы студзеня.

А калі не? Тады гадавы паказчык абясцэньвання беларускага рубля можа выліцца ў 200 ці 300 працэнтаў гадавых. Альбо наогул да 330 працэнтаў, як і па выніках мінулага 1999 года. Як бачым, перспектывы несуцяшальныя.

Зацішша выхаднога дня на мінулым тыдні на валютным рынку, на наш погляд, зменіцца ажыўленнем, гэта значыць, далейшым абясцэньваннем беларускага рубля. У нядзелю, 23 студзеня, курс даляра ЗША ў дачыненні да нацыянальнай грашовай адзінкі Беларусі складзе прыкладна 930 тысяч недэнамінаваных беларускіх рублёў за адзін даляр ЗША.

**Сяргей Міронаў**

| Дата | Набыццё $ЗША/бел.руб. у Гродне | Продаж $ЗША/бел.руб. у Гродне | Набыццё $ЗША/бел.руб. у Менску | Продаж $ЗША/бел.руб. у Менску |
|---|---|---|---|---|
| 3 студзеня | 790-800000 | 820-830000 | 800-810000 | 830-840000 |
| 6 студзеня | 800-815000 | 825-840000 | 810-830000 | 835-850000 |
| 9 студзеня | 840-850000 | 890-900000 | 870-890000 | 900-910000 |
| 12 студзеня | 840-850000 | 880-890000 | 860-870000 | 880-900000 |
| 13 студзеня | 850-860000 | 880-890000 | 860-870000 | 880-900000 |
| 14 студзеня | 840-850000 | 870-880000 | 840-860000 | 880-890000 |
| 15 студзеня | 850-860000 | 870-880000 | 860-870000 | 880-890000 |
| 16 студзеня | 860-870000 | 880-890000 | 870-880000 | 890-900000 |
| 17 студзеня | 860-870000 | 890-900000 | 880-890000 | 895-905000 |
| 18 студзеня | 875-880000 | 890-900000 | 885-890000 | 895-905000 |
| 19 студзеня | 880-885000 | 890-900000 | 890-900000 | 905-915000 |

**Заўвага: звесткі пададзеныя ў недэнамінаваных рублях.**

# Што на самой справе адбываецца ў Беларусі?

**У пасляваенны перыяд, падчас разрухі, галечы і голаду ў Савецкім Саюзе урад прыняў рашэнне аб дадатковым падаткаабкладанні на індывідуальныя сады. Гэта азначала, што ўладальнік, напрыклад, яблыні, абавязаны быў дадаткова заплаціць істотны падатак за нібыта атрыманы з гэтай яблыні даход.**

Кожны садавод пасля падліку сумы, якую яму належала выплаціць, з болем у сэрцы прымаў няпростае рашэнне аб высечцы свайго сада. Шмат хто са слязьмі на вачах высякаў тое, што вырошчваў на працягу некалькіх гадоў, тое, што дапамагала выжыць у цяжкія часіны.

За адну ноч былі ссечаныя мільёны садовых дрэваў. Урад СССР замест планаванага даходу не атрымаў нічога, акрамя знішчаных індывідуальных садоў.

Семдзесят тры гады камунізму паказалі, што пры знішчэнні прыватнай ініцыятывы, свабоды прадпрымальніцкай дзейнасці і пры ўкараненні дзяржаўнага кіравання эканомікай непазбежна наступаюць дыктатура і тэрор. Гэта пацвярджаецца не толькі гісторыяй развіцця і распаду Савецкага Саюза, але і гісторыяй развіцця іншых дзяржаваў.

Што ж адбываецца ў Беларусі? Палітолагі, якія абслугоўваюць кіруючы рэжым, спрабуць запэўніць беларускі народ, што тая палітыка, якую праводзіць урад, адзіна верная. Яны распавядаюць пра нейкія эканамічны рост, нейкую дэмакратыю.

На самой справе існуюць аб'ектыўныя фактары, якія дазваляюць даць дакладную ацэнку зменам, што адбываюцца ў нашай дзяржаве. Перадусім, фактычна ў Беларусі праведзена нацыяналізацыя. Урад з дапамогай увядзення шэрагу падзаконных актаў, якія парушаюць існуючую Канстытуцыю, вядзе барацьбу з прыватнай ініцыятывай сваіх грамадзянаў, ставіць прыватныя прадпрыемствы ў няроўныя ўмовы гаспадарання ў параўнанні з дзяржаўнымі прадпрыемствамі.

Адбылася поўная рэстаўрацыя каманднa-адміністратыўнай сістэмы. Тыя парушэнні дэмакратыі і правоў чалавека, якія назіраюцца ў Беларусі, нельга разглядаць як нейкія выпадковыя з'явы. Яны характэрныя для такога кшталту дзяржавы, для створанага ў ёй рэжыму. У гісторыі ўсё гэта ўжо было, падобнае ўжо адбывалася ў Савецкім Саюзе ды іншых краінах былога камуністычнага блоку. Такое ўражанне, што ні сам прэзідэнт (альбо чалавек, які лічыць сябе за прэзідэнта), ні ўрад не ўсведамляюць, што ж урэшце рэшт яны робяць з краінай? Часцяком імі прымаюцца непрадуманыя рашэнні, што ставяць падаткаплацельшчыкаў у тупік. Якімі будуць вынікі такой палітыкі заўтра?

Сады ў Беларусі, літаральна, пакуль яшчэ не высякаюць. Але многія ініцыятыўныя людзі, якія зняверыліся ў мажлівасці нешта зарабіць у сваёй краіне, ад'язджаюць за мяжу ці папросту нічога апроч таго, што п'янствуюць, не робяць. Прэзідэнт, які згуртаваў вакол сябе паслужлівых членаў урада і парламентарыяў, што не маюць свайго меркавання, тым самым гарантаваў сабе значныя пралікі ў палітыцы і эканоміцы ды сваю будучую паразу. Прыкладаючы намаганні да ўмацавання ўлады, парушаючы правы чалавека, абмяжоўваючы свабоду сродкаў масавай інфармацыі, прэзідэнт такім чынам стварае толькі вынікі ілжывай трываласці ды ўстойлівасці сваёй улады. Любая дыктатура ў канчатковым выніку асуджана, гэта пытанне часу. Аднак страта гэтага часу абыходзіцца беларускаму народу ўсё даражэй.

Аўтар гэтых радкоў падаў прыклад з высечкай садоў для таго, каб паказаць, што нават у таталітарнай савецкай пасляваеннай дзяржаве ўрад не здолеў узяць з грамадзянаў такі падатак, які яму надзвычай карцела мець. Падаткаплацельшчыкі стыхійна выказалі пратэст - папросту высеклі сады, і тым самым знішчылі падаткаабкладаемую базу. І гэта пры Сталіне, як ведаў, як распраўляцца з непакорлівымі!

Якімі ж трэба быць абмежаванымі і некампетэнтнымі кіраўнікамі, каб сёння ў Беларусі сваімі Дэкрэтамі фактычна знішчаць падаткаабкладаемую базу ўласнай дзяржавы? Наколькі трэба не паважаць сваіх падаткаплацельшчыкаў, каб патрабаваць ад іх падатак у некалькі разоў большы, чым зароблена імі на самой справе, ці з надуманых прычынаў канфіскоўваць іх маёмасць.

Няхай сабе прэзідэнт што заўгодна распавядае пра свае памкненні зрабіць штосьці на карысць народа. Чаго вартыя гэтыя словы, калі сваімі дзеяннямі ён папросту не дае людзям нешта зрабіць? Падчас сваёй нядаўняй прамовы ён паскардзіўся: маўляў, кепска жывем таму, што дрэнна працуем. Хочацца сказаць: «Шаноўны ты наш усенароднаабраны! Прэзідэнт якраз і павінен стварыць умовы, пры якіх людзі будуць добра працаваць і зарабляць на годнае жыццё, як, прынамсі, адбываецца ў цывілізаваных краінах. Годзе ўжо камандаваць уборачнай ды пасяўной ці адбіраць і дзяліць чужую маёмасць!»

Апошнія новаўвядзенні ў падатковым заканадаўстве, а менавіта, падаткі на дабаўленую вартасць (ПДВ) для індывідуальных прадпрымальнікаў, ізноў, у які ўжо раз, узнімаюць пытанне наконт існавання прадпрымальніцтва ў Беларусі. І так званы «валавы даход», і «сертыфікацыя, і ПДВ ды іншыя новаўвядзенні, што яшчэ з'явяцца ў далейшым - усё гэта звёны аднаго ланцужка, вынік непісьменнасці, некампетэнтнасці эканамічнай палітыкі ўрада. Як сказала адна з прадпрымальніц, «ім проста дужа хочацца грошыкаў».

Хаця і чуюцца з вуснаў высакапастаўленых чыноўнікаў словы адносна падтрымкі прадпрымальніцтва, аднак іх практычныя дзеянні яскрава сведчаць, што пад словам «прадпрымальніцтва» яны разумеюць не тое, што прынята ва ўсім свеце. Прадпрымальнік, які распачаў сваю справу, каб зарабіць грошай, у разуменні нашага чыноўніка - жулік! Выходзячы са свайго абмежаванага калгасна-камуністычнага ўяўлення аб прадпрымальніках, яны падзяляюць іх на «хорошых» - гэта вытворцы ці набліжаныя да выканаўчай улады асобы, «жульё» - гэта пасярэднікі, «вшивых блох» - гэта прыватныя прадпрымальнікі, якія займаюцца гандлем.

Створаныя Міністэрства прадпрымальніцтва ды інвестыцыяў, а таксама тэрытарыяльныя камітэты па развіцці і падтрымцы прадпрымальніцтва з'яўляюцца хутчэй за ўсё шырмай, за якой адбываецца ліквідацыя прадпрымальніцтва. Ніякім інвестыцыям, ніякаму развіццю прадпрымальніцтва яны не садзейнічаюць. Бо, па-першае, ні Міністэрства, ні камітэты ў нашай дзяржаве нічога ў падатковай палітыцы не вырашаюць. А па-другое, тыя людзі, што стаяць на чале ўзгаданых устаноў, анічога ў прадпрымальніцтве не цямяць. Так, напрыклад, тэрытарыяльны камітэт Гарадзенскай вобласці ўзначальвае Міхаіл Логвін. Пад ягоным кіраўніцтвам і павінна б развівацца прадпрымальніцтва ў вобласці, але нават пры ўсім жаданні былы калгасны аграном не здолее зрабіць для прадпрымальнікаў нешта карыснае, бо сам прадпрымальніцтвам ніколі не займаўся.

У свой час Валерый Леванеўскі, які ўзначальваў Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў, неадноўчы звяртаўся да міністра прадпрымальніцтва ды інвестыцыяў Аляксандра Сазонава з прапановамі наконт вырашэння пытанняў, што турбуюць прадпрымальнікаў. Калі б гэтыя пытанні вырашаліся своечасова, дык ніякіх забастовак прадпрымальнікаў і не было б. Аднак падчас выступлення на снежаньскай 1999 года сесіі Гарадзенскага абласнога савета дэпутатаў, міністр заначыў, што «надышоў час арыштаваць гэтага прайдзісвета» В.Леванеўскага «за падбухторванне на антыграмадскую дзейнасць». Такім чынам, замест вырашэння пытанняў, з-за якіх наспявае забастоўка, Аляксандр Сазонаў падбухторвае да яе прадпрымальнікаў тым, што не вырашае ніводнага важнага для іх пытання.

Калі не будзе, скажам, гэтага Міністэрства прадпрымальніцтва ды інвестыцыяў і ўсіх камітэтаў пры гэтым Міністэрстве, то ў прадпрымальніцтве не зменіцца нічога, акрамя эканоміі бюджэтных сродкаў. Як вядома, падчас выбарчай кампаніі А.Лукашэнкі А.Сазонаў сядзеў ля дзвярэй з газавым пісталетам і ахоўваў будучага прэзідэнта. Сядзець бы яму там і далей, але раптам прызначылі міністрам. Нельга не пагадзіцца з аўтарам аднаго з артыкулаў у «Белорусской деловой газете», які ахарактарызаваў яго адным словам: «ПУСТОТА».

Адсюль вынікае, што не можа нармальна функцыянаваць дзяржава, у якой пры падборы кадраў кіруюцца не прафесіяналізмам і кампетэнтнасцю, а паслужлівасцю і падхалімствам. Але гэта таксама характэрны недахоп рэстаўраванага асколка камуністычнай імперыі.

**Сяргей Рукамыйнікаў**

**Заява кіраўніцтва Гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне»**

З 1 студзеня 2000г. уступіў у дзеянне закон, які ўводзіць для большасці суб'ектаў гаспадарання так званы «налог на добавленную стоимость — НДС». Увядзенне гэтага закону паралізавала дзейнасць многа прадпрыемстваў і фірм, бо не быў загадзя растлумачаны рэальны парадак вылічэння і выплаты падатку.

Плаціць гэты падатак цяпер мусяць і прыватныя прадпрымальнікі. Яны ўжо плацяць фіксаваны падаходны падатак (а гэта 25-35 даляраў у месяц), а зараз будуць вымушаны пералічваць у бюджэт яшчэ і 20 % ад свайго прыбытку. Акрамя таго, вылічэнне НДС патрабуе складанага і аб'ёмнага бухгалтарскага ўліку. На гэта ў дробнага прадпрымальніка няма ні адпаведнай падрыхтоўкі, ні зразумелых інструкцый, ні часу.

Гарадзенская арганізацыя БНФ «Адраджэньне» падтрымлівае патрабаванні прадпрымальнікаў аб адмене выплаты падатку на дабаўленую вартасць для дробных бізнесоўцаў і спадзяецца, што ўлада выправіць памылку і прыме рашэнне, якое адпавядае логіцы і здароваму сэнсу.







# Сцвярджэнне аб шматвекавым адзінстве Беларусі і Расеі - міф!

**Працяг. Пачатак у N2(449)**

**Гэта была першая з цэлай серыі маскоўска-літоўскіх войнаў канца XV- першай трэці XVI стагоддзяў (1492-1494, 1500-1503, 1507-1508, 1512-1522, 1534-1537 гг.). У іх вырашалася пытанне - дзе будзе сталіца «Русі»: у Вільні ці Маскве. Гэтыя войны з'явіліся для ВКЛ «пачаткам канца» яго магутнасці і ўплыву ва ўсходнеславянскім рэгіёне.**

Мірнай згоды паміж Масквой і Вільняй хапіла на шэсць гадоў. У XVI стагоддзе дзяржавы ўвайшлі ў стане вайны паміж сабой. Рэлігійныя праблемы ВКЛ сталі выдатна выкарыстанай падставай для новай вайны, якую Іван III пачаў «большого расширения панства своего прагнучи». Фармальнай зачэпкай для яе з'явілася тое, што ў адной са сваіх грамат Аляксандр не назваў цесця «гасударом усяе Русі».

15 ліпеня 1500 года «зъехалося войско литовское с московским на Ведрашы (рака ў Ельнінскім раёне Смаленскай вобласці), и учинили межы собой бой и сечу великую, и побила москва литву». У гэтай бітве супраць 40-тысячнага войска захопнікаў выступіла 4-тысячная армія ВКЛ на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім. У лютай сечы малалікая конніца Астрожскага спачатку ашаламіла ворага атакай, але потым, сціснутая маскоўскімі палкамі, цалкам прайграла бітву. Загінулі лепшыя вайсковыя сілы княства, сам гетман трапіў у палон. У суседняй сталіцы трыумфавалі: «Бысть тогды радость велия на Москве», - занатаваў летапісец. Гэта была першая значная перамога маскоўскага войска над беларуска-літоўскім у палявой бітве, якіх раней маскоўскія ваяводы пазбягалі. Трагедыя на Ведрашы стала пачаткам новага этапу супрацьстаяння буйнейшых дзяржаваў Усходняй Еўропы - часоў маскоўскай ініцыятывы. Але ў 1500 годзе для Масквы скончыўся перыяд лёгкіх перамог у XVI стагоддзі. Пасля 1500 года, калі ваенныя дзеянні былі перанесены ўглыб ВКЛ, Масква не толькі не атрымала масавай падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва, але сустрэла супраціўленне, якое не давала ёй магчымасці лёгка далучаць да сябе землі.

У 1502 годзе, пасля беспаспяховай спробы ўзяць Смаленск, «понеже крепок бе», маскоўскае войска захапіла Оршу, разрабавала землі Віцебшчыны і Полаччыны, хадзіла «воевати литовскую землю». У той вайне ВКЛ страціла на карысць Масквы 19 гарадоў, у тым ліку Гомель, Бранск, Пуціўль, Ноўгарад-Северскі, Старадуб, і 70 валасцей Чарнігава-Северскай, значную частку Віцебскай і Смаленскай земляў. У руках Івана III апынуліся важнейшыя водныя магістралі: Днепр, Заходняя Дзвіна, значная частка басейна Сожа. Страты ВКЛ склалі 1/4 частку яго тэрыторыі. Новая мяжа набліжала агрэсіўнага суседа да жыццёва важных цэнтраў дзяржавы - пад пагрозай апынуліся Кіеў, Смаленск, небяспека навісла над Полацкам і Віцебскам. Тады Беларусь упершыню страціла свае этнічныя землі: Смаленшчыну, Браншчыну, Гомель.

У час перамір'я памерлі абодва манархі: і цесць, і зяць. Пры гэтым Іван III пакінуў сваім нашчадкам дзяржаву ў пяць разоў большую, чым атрымаў. Ягоныя поспехі натхнілі пераемніка Васіля III (1505-1533 гг.) на працяг агрэсіі. Пасля беспаспяховага выстаўлення сваёй кандыдатуры на літоўскі трон той аб'явіў сваю палітычную дактрыну: «Доколе конь мой будет ступать, а меч сечь, не дам спокоя Литве». У 1507 годзе ён накіраваў конныя войскі на Полацк і Смаленск. Яны зайшлі далёка ўглыб ВКЛ, абмінуўшы фартэцыі. Моцна пацярпелі тады ўсходняя, паўднёвая і цэнтральная часткі дзяржавы. Чарговая вайна не прынесла поспеху ніводнаму з бакоў і закончылася вечным мірам, якім ВКЛ прызнавала свае папярэднія тэрытарыяльныя страты на карысць Масковіі.

«Вечнасць» утворанай згоды цягнулася ўсяго 5 гадоў. Галоўнай мэтай нашага гістарычнага суседа ў чарговай ваеннай кампаніі быў захоп буйнага эканамічнага і стратэгічнага цэнтра ля заходніх межаў сваёй дзяржавы, першакласнай крэпасці Смаленска, амаль роўнага Маскве па велічыні. У выніку трох ваенных аперацый 1513-1514 гадоў пасля 3-месячнай аблогі 80-цю тысячамі ратнікаў Смаленск капітуляваў. Яго жыхары былі прыведзены да прысягі на вернасць цару. Гэтая страта ашаламіла ВКЛ. Калі раней кожная маскоўская выправа ўпіралася ў магутныя смаленскія сцены, дых цяпер шлях на полацка-віцебскім, аршанска-барысаўскім ды іншых напрамках быў адкрыты. Полацк станавіўся памежным горадам.

Каб замацаваць перамогу, Васіль III накіраваў сваю 80-тысячную армію ў напрамку Оршы і Друцка, каб у генеральнай бітве знішчыць войска ВКЛ. Яе прасоўванне спыніла ўзмоцненае польскай конніцай літвінскае войска (усяго 35 тысяч чалавек) на чале з гетманам К.Астрожскім. 8 верасня 1514 года на рацэ Крапіўне ля Оршы ён дашчэнту разбіў маскоўскую раць, якая больш чым удвая пераважала ягонае войска. Хітрым манеўрам пад выглядам адступлення ён уцягнуў праціўніка ў пагоню і вывеў яго пад агонь сваіх замаскіраваных гарматаў. «Літоўцы (войска ВКЛ), - пісаў расейскі гісторык Карамзін, - ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі, тапілі іх у Дняпры і Крапіўне; целамі ўсеялі палі паміж Оршай і Дуброўна». Ад 30 да 40 тысяч забітымі і 5 тысяч палоннымі страцілі маскавіты. Усе іх сцягі і агнястрэльная зброя сталі трафеямі пераможцаў. Астрожскі са сваімі ратнікамі накіраваўся на вызваленне Смаленска, частка баяр якога была гатова адкрыць яму гарадскую браму. Але царскі намеснік Шуйскі паспеў распраўіцца з літвінскімі патрыётамі, вярнуць горад тады не ўдалося.

Перамога пад Воршай, якая ўразіла Еўропу, мела вялікія вынікі. Той жа восенню былі вернуты ў склад ВКЛ стратэгічна звязаныя са Смаленскам Мсціслаўль, Крычаў, Дуброўна. На некаторы час была прыпынена навала з усходу, хаця нейтралізаваць яе цалкам не ўдалося; абмежавана ваяўнічасць Васіля III. Паміж дзяржавамі ўсталявалася мяжа, якая праіснавала з невялікімі зменамі на працягу ўсяго XVI стагоддзя.

Праз некалькі месяцаў маскоўскія ратнікі зноў уварваліся на Беларусь, спалілі Друю, Браслаў, рабілі набегі на Полацк, Віцебск, Мсціслаўль, шмат людзей захапілі ў палон. На перамовах 1517 года Васіль III абвінавачваў вялікага князя літоўскага Жыгімонта, што той «неправедно держит» его «отчину»: Кіеў, Полацк і Віцебск. У 1518 годзе маскоўскае войска дайшло да Менска, Слуцка, Маладзечна, Наваградка. У 1519 годзе ваенныя дзеянні адбываліся ў раёне Лагойска, Барысава, Менска, Маладзечна, Крэва, Ашмянаў. У 1520 годзе зноў хадзілі на Полацк і Віцебск. Рабавалі і палілі гарады і вёскі, бралі палонных. На патрабаванні маскоўскага боку паступіцца «русской отчиной» Полацкам літвінскія паслы адказалі патрабаваннем вярнуць Ноўгарад, Пскоў, Вязьму ды іншыя гарады, мінімальна - Смаленск.

У вайне 1534-1537 гадоў, у адрозненне ад папярэдніх, ініцыятыва належала ВКЛ. Але наяўных сіл у яго было мала, каб дамагчыся значнага поспеху. Лепш падрыхтаваная, мабілізаваўшая на вайну ці не ўвесь свой патэнцыял, Маскоўская дзяржава кінула на Беларусь буйныя вайсковыя сілы, якія, паводле рускага летапісу, «воевали королеву землю: Рэчицу, Свислач, Горвал, Петров-город, Мозырь, Случеск, Рогачев, Бобруеск, Туров, Брягин, Любеч и до Новагородка Литовского и посады у городов жгли, и села жгли, и люди, и живот, и животину выимали, а иное выжгли и вышли поздорову».

ВКЛ вярнула ў той вайне Гомель і Старадуб і было недалёкім ад вяртання астатніх сваіх земляў, але ўзаемныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі завялі перамовы ў тупік. Як пісаў усё той жа Карамзін, абодва бакі «патрабавалі немагчымага: літоўцы - Ноўгарада і Смаленска, мы - Кіева і ўсёй Беларусі». ВКЛ быў вернуты толькі Гомель. Трактат 1537 года зафіксаваў раўнавагу дзвюх сіл да часу, пакуль у Маскве зноў не абудзіўся ваенны дух. Да 50-х гадоў XVI стагоддзя яна перапыніла сваё прасоўванне на Захад.

У выніку паласы войнаў, якія цягнуліся з перапынкамі 45 гадоў, Масковія, якая ва ўзаемаадносінах з ВКЛ карысталася адзіным правам - правам моцнага, адваявала ад нашай дзяржавы да 1/3 яе тэрыторыі.

Ход барацьбы з Масковіяй і логіка падзеяў падштурхоўвалі княства да больш цеснага дзяржаўнага аб'яднання з заходнім суседам. У XV-XVI стагоддзях выявілася трывалая тэндэнцыя: чым больш абвастраліся адносіны Вільні з Масквой, тым больш яна схілялася да інтэграцыі з Польшчай.

На гэты раз спакой на ўсходніх межах Беларусі трываў два дзесяцігоддзі. Гэтая перадышка стала зацішкам перад новай навалай з усходу. Масква рыхтавалася да новых захопаў. Яна неаднаразова давала зразумець, што лічыць беларускія землі сваёй гістарычнай спадчынай. Цяпер нават Віленшчына і Лівонія ўжо абвяшчаліся «вотчынай» маскоўскіх уладароў.

У 1558 годзе Іван IV (1533-1583 гг.) распачаў вайну з Лівоніяй за прыбалтыйскія землі, каб праз іх наладзіць эканамічныя і культурныя сувязі з краінамі Заходняй Еўропы і сцвердзіць сваё права магутнай дзяржавы ўплываць на палітычны клімат Еўропы. Але на яе шляху ў Еўропу стаяла ВКЛ. Таму расейскі цар пераносіць ваенныя дзеянні на тэрыторыю Беларусі: у 1562 годзе яго палкі спустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Оршы, Віцебска, Магілёва. А праз год сам цар з 60-тысячным войскам аблажыў Полацк. Два тыдні мужна абараняўся ад маскоўскай арматы яго маленькі гарнізон, але драўляныя ўмацаванні гарэлі, сілы абаронцаў убывалі, а чакаць дапамогі не было адкуль. 15 лютага 1563 года горад мусіў здацца. Праз тры дні сюды ўехаў цар-пераможца, які прыняў тытул князя полацкага. А тут ужо лютавалі яго ратнікі. Горад быў разрабаваны. Шмат фурманак з золатам, срэбрам ды іншымі каштоўнасцямі пацягнулася да Масквы. Была раскрадзена старажытнейшая на Беларусі бібліятэка Сафійскага сабора. У палон павялі болей за 11 тысяч палачанаў. Іх амаль не кармілі, людзі сотнямі паміралі на зімовых дарогах ад голаду і марозу. Полацкіх яўрэяў па загаду Івана Жахлівага (у англійскую мову гэты кат таксама ўвайшоў як John Terrible) утапілі ў Дзвіне. Была акупавана паўночна-ўсходняя Беларусь. Для замацавання на захопленай тэрыторыі маскоўскае войска пабудавала шэраг крэпасцей (Туроўля, Суша, Ула ды іншыя). За 16 гадоў гаспадарання акупантаў на Полаччыне гэты край абязлюдзеў і здзічэў.

Хоць у студзені 1564 года войска ВКЛ на рацэ Ула атрымала бліскучую перамогу над захопнікамі, дзяржава апынулася на мяжы палітычнага краху і ваеннай катастрофы, пад пагрозу было пастаўлена само яе існаванне. З захопам Полацка ворагу адчыняецца шлях на сталіцу княства - да Вільні заставалася напрасткі да 200 кіламетраў. У пошуках дапамогі позіркі літвінскіх палітыкаў звяртаюцца на Захад. Выхад быў адзін - за стол перамоваў з Польшчай. Адпаведна словам кіраўніка магнацкай апазіцыі ў Любліне Мікалая Радзівіла, «на нашым хрыбце быў вораг, калі мы ехалі сюды, жадаючы пастанавіць з вамі унію,..і...мы пачалі імкнуцца да яе амаль бегам...» Агрэсія з Усходу стала галоўнай прычынай таго, што ў 1569 годзе ВКЛ было вымушана падпісаць ганебнае пагадненне з Польшчай узамен на вайсковую дапамогу. На жаль, у выніку гэтага аб'яднання ВКЛ страціла землі Украіны, якія адышлі да Польшчы.

З утварэннем Рэчы Паспалітай геапалітычная сітуацыя на еўрапейскім кантыненце змянілася - на яго карце з'явілася новая буйная і магутная дзяржава. У 1579 годзе яе аб'яднанае войска пад кіраўніцтвам князя і караля Стэфана Баторыя вызваліла захопленыя Маскоўскай дзяржавай Полацк, Веліж, Невель ды іншыя гарады і перанесла ваенныя дзеянні на яе тэрыторыю. Ям-Запольскае перамір'е 1582 года пакідала межы дзяржаваў-суседзяў у даваенным выглядзе. Незадаволены яго вынікамі Баторый (у сваёй рэзідэнцыі ў Гродне) выношваў новы план паходу на Расею, але іх здзяйсненню перашкодзіла смерць.

Напрыканцы XVI - у першай чвэрці XVII ст. у правячых колах новаўтворанай дзяржавы, сярод магнатаў і шляхты яе абедзвюх частак была папулярнай ідэя далучэння да Рэчы Пасталітай Маскоўскага царства. Яе падтрымлівалі і вялікакняжаскія палітыкі, якія разлічвалі, што ў новым вялізным еўраазіяцкім дзяржаўным утварэнні ВКЛ будзе належаць роля лідара. Гэта была апошняя гістарычная спроба ўзвышэння ВКЛ. Ад дыпламатычных спосабаў ажыццяўлення гэтай ідэі - выстаўлення на трон Рэчы Паспалітай кандыдатуры Івана IV і яго сына Фёдара ў 1573 і 1587 гадах - перайшлі да ваенных - паходаў Ілжэдзмітрыяў на Усход у 1604 і 1607 гадах. Не адна сотня беларускіх шляхцічаў удзельнічала ў гэткіх выправах. У ваенную кампанію 1609 года войска Рэчы Паспалітай вярнула ў склад княства Смаленск, а ў 1610-1612 гадах валодала самой Масквой. Два гады сталіца Расейскай дзяржавы знаходзілася ў руках польска-літвінскай шляхты, якая, аднак, была выгнана адтуль народным апалчэннем пад кіраўніцтвам Дз.Пажарскага і К.Мініна. У 1617-1618 гадах прадпрымаецца яшчэ адна, беспаспяховая, спроба пасадзіць на маскоўскае царства каралевіча Уладзіслава. Па Дзявулінскаму перамір'ю 1618 года ў склад ВКЛ зноў вярталіся яго старадаўнія землі Смаленск і Смаленшчына, Чарнігава-Северская зямля, гарады Дарагабуж, Вязьма ды іншыя.

**Эмілія Плятэр,**
**кандыдат гісторыі**

**Працяг будзе**



**Вялікі князь ВКЛ Стэфан Баторый. З карціны Я. Матэйкі**





ПЯРЭСТЫ КУТ

# Уладзімір Панцялееў: «Я ніколі не рабіў, як казалі раней, «для народа»

**Напярэдадні Новага года скульптар Уладзімір Панцялееў стаў «Мастаком года». Сёлета ўпершыню аблвыканкам абвяшчаў конкурс у розных намінацыях - літаратуры, тэатры ды іншых. Тое, што Панцялееў - лепшы з лепшых, мы ведалі заўсёды. А вось што ён сам думае пра падзею і наогул пра мастацтва - пра гэта наша інтэрв'ю.**

**У намінацыі «Мастак года» Панцялееў праходзіў разам з мастакамі Юрыем Якавенкам і Уладзімірам Голубам. Старшыня філіі Саюза мастакоў Сяргей Асапрылка лічыць, што Панцялеева адзначылі за тое, што ён зрабіў найважлівы ўклад у тое, каб Гарадзеншчына мела сваё мастацкае аблічча.**

**Дыпломная работа У.Панцялеева - помнік Міколу Гусоўскаму - упрыгожвае універсітэцкі гарадок БДУ. Мемарыяльныя знакі і скульптуры майстра ўшаноўваюць памяць знакамітых асобаў з гісторыі Беларусі: Марыі Багдановіч, маці паэта, Тадэвуша Касцюшкі, удзельнікаў паўстання К.Каліноўскага, Элізы Ажэшкі ды іншых.**

*- Уладзімір, як асабіста Вы ацэньваеце мінулы год, ён сапраўды быў самым удалым у Вашым жыцці?*

- Апошнія два гады сапраўды пайшлі выніковыя. Але неяк без майго непасрэднага ўплыву. Атрымалася, што я працаваў-працаваў увесь гэты час, а цяпер мае творы працуюць на мяне. Цяпер толькі і чую - то там яны выстаўляюцца, то там у нейкіх конкурсах выйграюць. Апошнім часам былі мае выставы ў менскай галерэі «Мастацтва», у музеі сучаснага мастацтва, у Галандыі, Германіі. Проста з фондаў Нацыянальнага музея творы вандруюць па свеце.

*- Аднак у Гродне Вашай персанальнай выставы не было ўжо ці не занадта даўно?*

- А і на самой справе...- (смяецца). Але на весну нашай вежай зробім выставу, аб'яднаем разам жывапіс, графіку, скульптуру. На гэты год планую выставы ў Музеі сучаснага мастацтва і ў сябе на Радзіме - у сяле Бялынічы.

*- На каго Вы арыентуецеся ў сваёй творчасці: на дылетанцкую масу ці на знатакоў?*

- Я ніколі не працаваў, як казалі раней, «для народа», не маю такога жадання - дагадзіць усёй масе. Калі нешта з маіх работ па-сапраўднаму спадабаецца аднаму-двум чалавекам - ужо добра. А самы для мяне верны паказчык творчага росту, гэта калі работу пахваліць паважаны табой калега - вось гэта поспех. Тады і вырастаюць крыльцы.

*- Дапамагае ці перашкаджае Вашай творчасці «усеагульная мляжасць да жыцця» - апатыя і безыдэйнасць грамадства?*

- Ага, былі часы, калі мастакі на розныя лады распісвалі БАМ, камсамольцаў, В'етнамскіх байцоў і барацьбу за мір. Усе гэтыя лeнініяны - шкурніцтва, і больш нічога. Савіцкі вырас на гэтай ідэйнасці - і цяпер яшчэ паласуе тэму Чарнобыля. А што зроблена ім ад душы - так ніхто і не ўбачыў. Мне пашанцавала - я фармаваўся ў той час, калі людзі ўжо бачылі, хто ёсць хто. Гэта была другая палова 80-х - самы пік нацыянальнага Адраджэння.

*- Хто цяпер валадарыць Вашымі творчымі думамі?*

- Апошні час мяне цікавіць жаночае цела...

*- У якім сэнсе?*

- Жаночае цела - узор прыроднай формы, дасканальны ўзор для работы скульптара. Мужчына з яго вуглаватай фігурай, грубым цягліцавым рэльефам не вымагае такога тонкага падыходу скульптара. А вось калі ўдасца выявіць мяккі абрыс жаночай таліі, выгін сцёгнаў - значыць, вока ёсць.

*- Ці даводзіцца пазіраваць у Вашай студыі чароўным юным німфам, так званым натуршчыцам?*

- Для мяне гэта неабавязкова. Прынамсі, я магу запрасіць натуршчыцу расправанцуца і пабегаць па майстэрні ці пасядзець на канапе - толькі для таго, каб нагледзець гарманічную паставу... Вось калі мы яшчэ студэнтамі вучыліся, дык паппацавалі з натурай, колькі хацелі(смяецца). Па тры гадзіны на дзень былі заняткі. Быў час, калі да нас натуршчыцамі менскія прастытуткі ўладкоўваліся - каб завесці працоўную кніжку, бо тады за дармаедства каралі. Дык сярод іх, канешне, сустракаліся паненкі з гарачымі формамі.

*- Незлічоныя варыяцыі на тэму беларускай Венеры сведчаць пра тое, што Вы шукаеце свой ідэал прыгажосці?*

- Я фарміраю свой тып. Самае цікавае - пошук прыгажосці, сам шлях да дасканаласці. Дасканалай прыгажосці ў гэтым усім яшчэ няма, сярод скульптараў шмат няўдалых. Але рана ці позна з'явіцца 1-2 дасканалыя. Калі іншыя мае работы набываюць музеі - то за кошт маіх жанчын я жыву. Без жартаў, яны самыя купляемыя. А паколькі больш за палову чалавецтва - сексуальна заклапочаныя, то на гэтай тэме заўсёды пражывеш.

*- Мастак не хоча быць бедным і галодным?*

- Я не павінен быць бедным, мая работа завязана на матэрыяльных сродках. Немалыя грошы патрэбныя на матэрыял, на ліццё. Мастацтва цяпер - дарагое задавальненне.

*- Як, на Вашу думку, сёння мастаку ўтрымацца на плыву, не загінуць ад гарэлкі, ці, скажам, ад матэрыяльнай безвыходнасці?*

- Гэта залежыць ад характару і ад працавітасці. Мяне алкаголем не саб'еш. Магу, канешне, выпіць, нават адзін дома - калі захочацца, прыйду і вып'ю. А ў майстэрні, у працэсе работы - ніякіх п'янак, ні гарэлкі, ні піва.

*- Ваш творчы шлях - прыклад удалага лёсу мастака?*

- А чаму не? Я працую тут, у Гродне, добра. Здаецца, рэалізаваўся. Зямля тут асобая, творчая. Хаця напачатку, як скончыў інстытут, у валёнках і куфайцы рабіў сваю першую скульптуру, у халодным, без ацяплення, памяшканні.

*- У Вас не ўзнікае думкі пашукаць лягчэйшага жыцця, з'ехаць за мяжу, як гэта робяць многія творчыя асобы?*

- Не. Тут мора працы, столькі яшчэ не зроблена. Толькі ў нашым Гродне, я маю надзею, пастаўлю яшчэ помнікі Жылібера і Тызенгаўза. Што, хто-небудзь з Галандыі прыедзе, будзе гэта ўсё рабіць? Ды ніколі! Я лічу, што мая работа патрэбна краіне. Вышэйшае прызнанне для мастака - калі твае творы ў Нацыянальным музеі краіны, а не толькі ў прыватных калекцыях замежнікаў. Хоць зарабляю я за мяжою, важу туды творы на продаж, каб зарабіць (смяецца). А на тыя грошы ізноў адліваю новыя скульптуры.




1. Народны струнны смыкавы музычны інструмент. 2. Рыбалоўная прылада. 3. Драўляная прылада для ручнога прадзення. 4. Прымітыўнае полазнае прыстасаванне для перавозкі грузаў. 5. Мужчынскі галаўны ўбор. 6. Прылада для ручнога памолу, ручны млын. 7. Беларуская народная гульня. 8. Від мэблі ў колішнім побыце беларусаў. 9. Гарызантальна прымацаваная да сцяны дошка з бакавіцамі для посуду ды іншага хатняга начыння. 10. Бандарны выраб.

**Адказы на галаваломку, змешчаную ў №2(449):**

1. Батлейка. 2. Веранда. 3. Брычка. 4. Бойка. 5. Ліра. 6. Бурка. 7. Люлька. 8. Набойка. 9. Настаўка.

ТЭСТ

# «Хто хоча, той даб'ецца...»

**1. Калі Вы сустрэлі чалавека, які Вам спадабаўся, Вы:**

а) пачынаеце гутарку самі;

б) чакаеце, пакуль з Вамі загавораць;

в) ствараеце сітуацыю, пры якой знаёмства немінуча адбудзецца.

**2. Вы заўважаеце ў нова-га(-ай) знаёмага(-ай) манеры, якія Вас шакіруюць. Вы:**

а) болей не будзеце падтрымліваць гэтае знаёмства;

б) тактычна ўказваеце на дапушчаны промах, каб у далейшым ён не паўтараўся;

в) робіце спробы заплюшчыць на гэта вочы, спадзеючыся выправіць недахопы выхавання ў будучыні.

**3. Ваш(-а) выбраннік (выбранніца) раптам у кампаніі стаў(-ла) надаваць больш увагі некаму іншаму. Вы:**

а) адразу ж пачынаеце фліртаваць з суседам (суседкай);

б) пакрыўдзіцеся і не будзеце звяртаць увагі на нова-га(-ую) знаёмага(-ую);

в) зробіце ўсё мажлівае, каб пераключыць увагу на сябе.

**4. У кампаніі Вас зацікавіў нехта іншы. Вы:**

а) паспрабуеце непрыкметна для таго (той), з кім прыйшлі, паведаміць свой нумар тэлефона;

б) будзеце адкрыта фліртаваць з прадметам новага захаплення;

в) не станеце прадпрымаць ніякіх захадаў, бо гэта будзе непрыемна спадарожніку(-цы).

**5. Ваша знаёмства стала больш цесным. Вы:**

а) раскажаце сябру (сяброўцы) пра Вашыя найбольш яскравыя папярэднія захапленні і дадасце, што ўсё ж пачуцця такой сілы яшчэ не зведвалі ніколі;

б) пакінеце Ваша папярэднія жыццё таямніцай;

в) паведаміце, што да нова-га(-ай) знаёмага(-ай) у Вас наогул не было сапраўднага кахання.

**6. Вас неспадзеўкі заспелі ў далікатнай сітуацыі. Вы:**

а) будзеце адмаўляць усё да апошняга;

б) прызнаецеся ва ўсім і запэўніце, што больш ніколі не зробіце такой трагічнай памылкі;

в) не будзеце распачынаць разборкі, бо лічыце, што з часам усё забудзецца і наладзіцца.

**7. Ваш выбраннік(-ца) павінен(-на) ехаць у працяглую камандзіроўку з асобай супрацьлеглага полу. Вы:**

а) асцярожна даведваецеся, ці не хаваецца за гэтым нешта кепскае;

б) зробіце ўсё, каб камандзіроўка не адбылася;

в) паспрабуеце не забіваць сабе галаву глупствам і карысна правядзеце вольны час.

**Падвядзем вынікі**

Налічыце сабе ачкі за наступныя адказы.

0 ачкоў: 1б, 2а, 3б, 4в, 5в, 6б, 7а;

1 ачко: 1а, 2б, 3в, 4б, 5б, 6а, 7б;

2 ачкі: 1в, 2в, 3а, 4а, 5а, 6в, 7в.

**Ад 0 да 4 ачкоў.** У каханні Вы вечна пакутуючы бок, і роля ахвяры Вам нават даспадобы. Вы зусім не здольныя праяўляць выдумку ды ініцыятыву ў сардэчных справах, а таксама не гатовыя весці сур'ёзныя баявыя дзеянні, якіх вымагае кожная любоўная бітва. А навошта здаваця яшчэ да «бою»? Памятайце, што крыху эгаізму і жыццёвай мудрасці Вам не пашкодзіць. У адваротным выпадку ёсць шанец застацца ў дзеўках (ці вечным халасцяком), альбо часцяком пакутаваць з-за прыкрай адзіноты.

**Ад 4 да 9 ачкоў.** У Вас, відаць, багаты выбар. Вы, без сумневу, карыстаецеся поспехам у супрацьлеглага полу і напраўду ўмееце абыходзіцца з паклоннікамі (паклонніцамі). Ваша мудрасць прынясе (ці ўжо прынесла) Вам добры плён і стабільны шлюб. Адзінае, чаго Вам не стае, дык гэта парываў нястрымнага гарачага пачуцця ды ўмення забыцца на тактыку дзеля неўтаймаваных пачуццяў і жаданняў. А зрэшты, без гэтага неяк спакайней.

**Ад 9 да 13 ачкоў.** Даволі нястрымны фліРт адыгрывае ў Вашым жыцці немалую ролю. Вас смела можна назваць сэрцаедкаю (сэрцаедам). Трошкі шкада тых рамантычных натураў, якім «папшчасціла» сустрэць Вас на сваім шляху: каханне для Вас - рызыкоўная гульня, і не больш. Аднак варта мець на ўвазе, што, як і ў любой гульні, тут заўсёды можна сустрэць больш моцнага суперніка.

**14 ачкоў.** Вы - мужчына...

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** У Вас з'явіцца ўпэўненасць у мажлівасці пераасэнсаваць складаныя жыццёвыя праблемы. Важна не памыліцца.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Прыміце меры перасцярогі, каб не апынуцца ў палоне інфекцыйных захворванняў. Пачынайце з пятніцы.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Вам можа пашкодзіць самаўпэўненасць, саманадзейнасць там, дзе ў Вас ёсць вялікія шанцы на поспех. Надзвычай удалы дзень - субота.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Вас чакае значны поспех у гандлёва-валютных аперацыях і ўдача ў адной, здавалася б, прайгранай справе.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Недахоп рашучасці, самастойнасці можа стварыць чаргову выя цяжкасці на Вашым жыццёвым шляху. Больш упэўненасці Вам не пашкодзіць.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Магчыма, атрымаеце цікавыя прапановы наконт новага месца працы. Унутраны голас падкажа Вам, ці трэба пагаджацца.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Калі будзеце глядзець на жыццё праз ружовыя акуляры, дык ізноў патрапіце ў нерат падману. Карысці з гэтага не будзе аніякай.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Пажадана было б правесці вольны час сярод блізкіх сяброў. Удалыя дні для адпачынку - пятніца і нядзеля.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Не канфліктуйце з каханым чалавекам, бо можаце ўшчэнт сапсаваць адносіны. З аўтарка Вас чакаюць значныя змены ў лепшы бок і прыбытковая справа.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Зоркі зычаць Вам удачу ў асабістым жыцці. Але нягледзячы на абсалютна шчаслівыя дні, будзьце напагатове.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Не трацьце сродкі на зусім непатрэбныя рэчы. Будзьце вельмі ўважлівымі і ўстрымлівайцеся ад неабдуманых учынкаў і фразаў.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Цудоўны тыдзень для рэалізацыі творчых планаў, не звязаных з асноўнымі абавязкамі на працы. Напрыканцы тыдня атрымаеце цікавую камерцыйную прапанову.

# Юрась на Парнасе

**Пегас гарадзенскага паэта Юрыя Гуменюка прынёс яго на самую вяршыню Парнасу. Пятага студзеня Юрый стаў «Паэтам года».**

Паводле ініцыятывы Алеся Варламава, у Менску адбылася мастацкая акцыя «Супервобраз XXI стагоддзя», на якой і вызначыліся лаўрэаты ў намінацыях «літаратура», «музыка», «народная творчасць» ды іншых. Намінантамі І-ых прэмій, акрамя Юрыя, у літаратурнай намінацыі сталі празаік Лявон Вашко і крытык Юрась Барысевіч.

Акцыя праходзіла ў будынку старога аэрапорта па вуліцы Чкалава адпаведна ўсім правілам сучаснага шоу: з рок-канцэртам, паказам мод, мастацкай выставай і перфомансам у біццём патэфона. Юрый Гумянюк чытаў свае вершы пад акампанемент флейтысткі Асі Бельцюковай.

**Алена Сіневіч**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:** 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4.
Замова 201 Наклад 8 317
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 19.01.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар *Мікола Маркевіч*

Камп'ютарны набор: *Ірына Салей*, камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*